СВАБОДА

№45 29 лістапада — 5 сьнежня 1994 г.

Кошт 80 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
Ігар ГЕРМЯНЧУК

Заснавальнік Павал ЖУК

Выдавец
«Газэта СВАБОДА», Ltd.

Наклад 50 000

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220088, Менск,
вул.Іванаўская, 56

Тэл. 36-24-41

# Прэзыдэнт дае „задні ход“

Лукашэнка спрабуе рэабілітавацць сябе ў вачох МВФ

**Прэзыдэнт чытае СВАБОДУ, але, на жаль, не заўсёды прыслухоўваецца да парадаў нашай газэты.**

Папулісцкія гульні Аляксандра Лукашэнкі завяршыліся тым, што Міжнародны валютны фонд адмовіўся пакуль супрацоўнічаць зь цяперашнімі беларускімі ўладамі. На гэтае рашэньне МВФ паўплываў указ прэзыдэнта аб зьніжэньні коштаў на некаторыя прадукты.

Рэч нават ня ў тым, што Беларусь не атрымае ад МВФ заплянаваных крэдытаў, якія маглі нам даць ужо напрыканцы гэтага году і ў пачатку наступнага. Калі ад краіны адварочваецца такая аўтарытэтная фінансавая арганізацыя, то заходнія інвэстары разумеюць гэта адназначна: у гэтую дзяржаву пакуль ня варта ісьці рабіць бізнэс.

На адмову МВФ сп.Лукашэнка спачатку адрэагаваў у сваім традыцыйным стылі. На сустрэчы з прафсаюзьнікамі ён пракамэнтаваў гэта так: «Запад попытался топнуть ногой и потрясти кулаком президенту», з прычыны чаго Лукашэнка нагадвае, што Беларусь «суверенная не только к Востоку, но и по отношению к Западу». Аднак ужо праз некалькі дзён Лукашэнка мусіў перадаць у прэсу сваю заяву, у якой запэўнівае, што праграма рынкавых рэформаў будзе няўхільна выконвацца. Заява адрасаваная нібыта грамадзкасьці краіны, аднак кожны дасьведчаны чалавек зразумее, што прэзыдэнт гэткім чынам спрабуе рэабілітавацць сябе ў вачох Міжнароднага валютнага фонду.

Пятро ПАНКРАТОВІЧ



**На здымку: А.Лукашэнка ў прэс-цэнтры сярод журналістаў**

# Лукашэнка паехаў рабіць „вэртыкаль“

**Сёньня, 29 лістапада, у Віцебску павінна адбыцца сэсія абласнога Савету.**

Прэзыдэнт Лукашэнка выехаў у Віцебск учора ўвечары. На сэсіі ён запрапануе свайго кандыдата на пасаду старшыні аблвыканкаму. Гэтым «шчасьлiўчыкам», паводле нашых зьвестак, зьяўляецца цяперашні намесьнік старшыні аблвыканкаму па сельскай гаспадарцы 45-гадовы Уладзімер Андрэйчанка, дэпутат Вярхоўнага Савету. Ён скончыў сельскагаспадарчы інстытут, Вышэйшую партыйную школу і прайшоў звычайны партыйную кар'еру, даслужыўшыся ў свой час да першага сакратара райкаму.

У гэты ж дзень у Віцебску адбудзецца сэсія гарадзкога савету.

У сераду А.Лукашэнка паедзе на сэсію ў Магілёў, а ў чацьвер будзе ў Гомлі.

Дарэчы, на мінулым тыдні, калі наш карэспандэнт ехаў на Магілёў, перад мастом за г.Беразіно яго амаль на гадзіну затрымала ДАІ — увесь мост быў застаўлены грузавікамі зь пяском. Паводле словаў інспэктара, гэткім чынам правяралася трываласьць маста, каб раптам чаго не здарылася, калі будзе ехаць прэзыдэнцкая кавалькада лімузынаў.

Іван СІДАР

# Маскве не падабаецца дзейнасьць БЗВ

**Як заявіў карэспандэнту СВАБОДЫ лідар Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў Мікола Статкевіч, вайсковая контрвыведка КДБ Беларусі актыўна працуе супраць БЗВ.**

Мікола Статкевіч сказаў, што гэта не было для яго неспадзяванасьцю, аднак нядаўна ён меў размову з «адным супрацоўнікам контрвыведкі», які паведаміў яму такое: «Беларускія афіцэры контрвыведкі ня хочуць працаваць супраць БЗВ, але супраць вашай арганізацыі працуе расейская выведка, якая кіруе намі».

Паводле зьвестак БЗВ, у структурах вайсковай контрвыведкі 80% кіруючых пасадаў займаюць людзі небеларускага паходжаньня.

А.К.

# Садоўскі вяртаецца дамоў

**Учора, 28 лістапада, прэзыдэнт Лукашэнка падпісаў указ аб адкліканьні Пятра Садоўскага з пасады пасла Беларусі ў Нямеччыне.**

У прэзыдэнцкай прэс-службе пацьвердзілі гэтую інфармацыю. Новы амбасадар будзе прызначаны пазьней.

М.Г.

# Урад будзе думаць, як вяртаць даўгі

**30 лістапада ў Доме ўраду адбудзецца паседжаньне валютна-крэдытовай камісіі Кабінэту міністраў.**

Будзе абмяркоўвацца пытаньне «Аб крытычнай сытуацыі з пагашэньнем замежных крэдытаў». У падрыхтаваных да паседжаньня дакумантах фігуруе наступная лічба: на 1 лістапада Беларусь мае запазычанасьць у 1 млрд. 211 млн. даляраў ЗША. Прыкладна палову гэтай сумы наша краіна завінавацілася Расеі.

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ

# Акадэмія навук склала сьпіс таленавітых людзей

**Як высьветлілася, кіраўнікі беларускай Акадэміі Навук даўно выканалі даручэньне прэзыдэнта і склалі сьпіс таленавітых людзей краіны.**

Праўда, падчас тэлефоннай размовы намесьнік галоўнага вучонага сакратара АН Уладзімер Хрыпач патлумачыў, што ў працэсе працы над выкананьнем прэзыдэнцкага заданьня супрацоўнікі акадэміі зрабілі выснову аб неабходнасьці зьмены назову дакумента. На іхную думку, ён павінен называцца сьпісам выдатных людзей навукі. У сьпіс занесьлі імёны больш як ста навукоўцаў. Дарэчы, кіраўніцтва Акадэміі зь вялікай адказнасьцю паставілася да даручэньня прэзыдэнта — кандыдаты ў «таленавітыя людзі» старанна абмяркоўваліся ў акадэмічных інстытутах. Акрамя сваіх, акадэмічных, Прэзыдыюм Акадэміі Навук знайшоў і занёс у сьпіс выбітных навукоўцаў — супрацоўнікаў галіновых ВНУ і нават «таленавітых самародкаў з народу».

Аднак прэзыдэнт пакуль не ацаніў працы добрасумленных кіраўнікоў Акадэміі і, магчыма, папросту засунуў сьпіс далёка ў шуфляду. Супрацоўнікі АН да гэтага часу ня могуць зразумець, чаму прэзыдэнт даў ім гэткае дзіўнае заданьне ды яшчэ ў такой ультыматыўнай форме. Нагадаем, што сёлета ў верасьні, выступаючы на Асамблеі дзелавых колаў Беларусі, Аляксандар Лукашэнка паабяцаў асабіста пазнаёміцца са сьпісам і прыгразіў, што ў выпадку нядобрасумленнага выкананьня даручэньня «прэзыдэнту Акадэміі Навук Леаніду Сушчэню мейсца ў гэтай краіне ня будзе».

Дарэчы, падчас передвыбарчай прэзыдэнцкай кампаніі Леанід Сушчэня не прадаставіў Аляксандру Лукашэнку канфэрэнц-залю Акадэміі Навук для сустрэчы з выбаршчыкамі.

СІМ

Зьезд нацыяналістаў разагнала міліцыя стар.2

Казлоўскі правёў дома прэс-канфэрэнцыю стар.2

Як адзначалі ўгодкі Слуцкага паўстаньня стар.3

Генэралы напісалі ліст прэзыдэнту стар.4

# Зьезд нацыяналістаў разагнала міліцыя

## Чатырох чалавек пасадзілі за краты

**26 лістапада ў Віцебску меўся адбыцца Першы зьезд беларускіх нацыяналістаў, але міліцыя сілаю разагнала ягоных удзельнікаў.**

У суботу ў 11.30 у галерэі мясцовага мастака Алеся Пушкіна, дзе меркавалася правесьці зьезд, сабралася каля 50 дэлегатаў. Не пасьпеў кіраўнік менскай арганізацыі «Правы рэванш» Славамір Адамовіч паведаміць пра адкрыцьцё зьезду, як зьявіўся першы няпрошаны госьць — намесьнік начальніка Кастрычніцкага райддзелу міліцыі Віцебска падпалкоўнік Тапуноў. Ён заявіў, што ў міліцыю нібыта паступіў ананімны званок і невядомы паінфармаваў, што гэты будынак замініраваны. З гэтай прычыны падпалкоўнік папрасіў удзельнікаў зьезду тэрмінова пакінуць памяшканьне. Дэлегаты катэгарычна адмовіліся гэта зрабіць і заявілі, што «гатовыя ўзарвацца разам з галерэяй». «У такім разе мы будзем вымушаныя выводзіць вас сілай», — прыгразіў начальнік Кастрычніцкага РАУС палкоўнік Ільніцкі, які таксама зьявіўся ў галерэі.

Выштурхоўваючы людзей з памяшканьня, міліцыянты не цырымоніліся. Старшыню мясцовай Рады БНФ Ул.Плешчанку, напрыклад, павалілі на падлогу і некалькі разоў добра ўдарылі нагамі.

«З-пад мяне міліцыянты выбілі табурэт, схапілі за вопратку і пацягнулі да выхаду, — кажа рэдактар віцебскай газэты «Выбар» Барыс Хамайда. — Пакуль спускалі мяне з трэцяга паверху на першы, то тры разы праверылі кейс і двойчы абшуквалі. Абшуквалі амаль усіх прысутных».

Да самага вечару ў будынак нікога не пускалі. Сапёры абсьледвалі памяшканьні, але ніякай міны, вядома ж, не знайшлі. Затое кіраўнікоў Віцебскай Рады БНФ Ул.Плешчанку і Ю.Карпава затрымалі і адвезлі ў міліцэйскі пастарунак. Запыт дэпутатаў абласнога і гарадзкога саветаў, у якім яны патрабавалі, каб ім далі магчымасьць сустрэцца з затрыманымі, міліцыя праігнаравала. У той жа дзень адбыўся суд. Плешчанку аштрафавалі на 300 рублёў, а Карпаву прысудзілі 3-е сутак арышту.

У нядзелю, 27 лістапада, у адпаведнасьці з праграмай зьезду ў 15 гадзін каля помніка Ул.Караткевічу дэлегаты сабраліся на мітынг. Пасьля выступаў С.Адамовіча і А.Пушкіна прысутныя ўсклалі кветкі да помніка пісьменьніку. Потым удзельнікі мітынгу разгарнулі дзяржаўныя сьцягі, запалілі паходні і зьбіраліся пайсьці калёнаю да плошчы Свабоды. Але тут зьявіўся маёр міліцыі, які заявіў, што гэтае шэсьце не санкцыянаванае ўладамі, і загадаў усім разысьціся. Аднак ніхто разыходзіцца не зьбіраўся. Міліцыянты скруцілі рукі Пушкіну і Адамовічу, папіхвалі іх у машыны і некуды павезьлі. Астатнім міліцыя не перашкаджала прайсьці па ходніку да плошчы Свабоды. Па ўсім шляху стаялі міліцыянты. На плошчы Свабоды ў прадстаўніка Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі Алеся Мудрычэнкі ахоўнікі парадку вырвалі з рук дзяржаўны сьцяг, а яго самога забралі ў пастарунак.

У гэты ж дзень позна ўвечары адбыўся суд над арганізатарамі зьезду. А.Пушкіна арыштавалі на 15-ць сутак, А.Рамашэўскага — на 10-ць, С.Адамовіча — на 3-е сутак. А.Мудрычэнку прысудзілі 300 рублёў штрафу.

Пацярпелі таксама некаторыя журналісты. У аднаго менскага карэспандэнта двое мужчын у цывільным забралі відэакамэру, дасталі касэту і растапталі яе.

Пушкін, Адамовіч, Рамашэўскі і Карпаў адбываюць пакараньне ў Віцебскім сьледчым ізалятары.

**Яўген АЛАДКА**

# Пазьняка віталі землякі

**Шматлюднымі былі сустрэчы дэпутатаў Апазыцыі Зянона Пазьняка, Лявона Баршчэўскага і Сяргея Навумчыка з выбаршчыкамі ў Івейскім раёне.**

Апрача Іўя, дэпутаты за два выходныя дні пабывалі ў васьмі вёсках. У выніку гэтых візытаў колькасьць сяброў БНФ у Івейскім раёне павялічылася больш як у два разы. Суполкі Народнага Фронту створаныя ў 10-ці сельскіх саветах.

**М.Г.**

# Штаб ТБМ — у Рыжкавічах

**Учора, 28 лістапада, у Шклове была створаная раённая арганізацыя Таварыства беларускай мовы.**

Мясцовыя ўлады ўсяляк прациваліся гэтаму, не даючы дазволу на арэнду памяшканьня для правядзеньня ўстаноўчай канфэрэнцыі. Толькі пасьля ўмяшаньня менскага кіраўніцтва ТБМ улады перасталі чыніць перашкоды.

На канфэрэнцыю запрасілі жонку прэзыдэнта Галіну Лукашэнка, і яна пагадзілася ўдзельнічаць. Аднак па невядомых прычынах на сходзе яе не было.

Шклоўскую арганізацыю ТБМ узначаліла карэспандэнтка раённай газэты «Ударны фронт» Вольга Паўлава, якая, дарэчы, жыве ў прэзыдэнцкай вёсцы Рыжкавічы.

**Іван СІДАР**

# «Шлях» выходзіць на дарогу

**На мінулым тыдні ў Берасьці убачыў сьвет першы нумар газэты «Шлях». Яна выходзіць па-беларуску.**

Рэгіянальнае выданьне супольна заснавалі дэмакратычныя арганізацыі Берасьцейшчыны. Праз фінансавыя цяжкасьці газэта пакуль будзе друкавацца адзін раз на месяц. У пэрспэктыве плянуецца наладзіць штотыднёвы выпуск «Шляху».

**В.В.**

# Талачынскі мартыралёг

**Узьвесьці ў Талачыне помнік ахвярам сталінскіх рэпрэсіяў прапанаваў старшыня тамтэйшай Рады БНФ, былы паліткатаржанін Анатоль Рылько.**

Разам зь іншымі сябрамі Рады ён ужо высьветліў дзясяткі імёнаў землякоў, зьнішчаных у часе барацьбы з «нацыяналізмам», калектывізацыі, індустрыялізацыі і паляваньня на «ворагаў народа». Помнік будзе ўстаноўлены на добраахвотныя ахвяраваньні.

**Леў КАМЕНСКІ**
**БелаПАН**

*Ліст у рэдакцыю*

# Музэй прапагандысцкага абсюрду

Паважаная рэдакцыя!

Кожны панядзелак увечары Беларускае радыё прапануе сваім слухачам перадачу «Пазіцыя», якую вядзе Яўген Багадзяж.

Здавалася б, што ў гэтай перадачы, адпаведна ейнай назве, павінны былі б сустракацца, выказваць ды адстойваць свае пазыцыі людзі разнастайных пунктаў погляду, прадстаўнікі розных палітычных партыяў, сілаў і г.д.

Але дастаткова два, тры разы паслухаць гэтую перадачу — і стане зразумела, што «Пазіцыя» — гэта пазаўчорашні дзень бальшавіцкай прапаганды, гэта пазыцыя закасьцянелага камуніста Багадзяжа ды ягоных радыёначальнікаў, гэта трыбуна ворагаў незалежнай Беларусі, ворагаў нашага адраджэньня. Гэтая прапаганда вядзецца настолькі адкрыта і непрыхавана, наколькі і прымітыўна.

Праўда, на перадапошнія дзьве перадачы, мабыць, для наданьня ім большай аўтарытэтнасьці, быў запрошаны доктар навук прафэсар Акулаў. (Дарэчы, ці ня дзіўна, што дзьве перадачы запар аддаюць той самай асобе?) Але, мне здаецца, і прафэсар выклаў сваю «пазыцыю» без прафэсарскай упакоўкі. З салдацкаю просталінейнасьцю ён палохаў нас, беларусаў, усімі зямнымі бедамі ды нябеснымі карамі, калі мы ня станем на калені ды не пакаемся перад Расеяй за вялікія нашы грахі — за нашую незалежнасьць, за Віскулі, за чарнаморска-балтыцкі калектар, за БНФ... Гнеўны маналёг прафэсара раз-пораз перапыняў для ўхваленьня сп.Багадзяж. Дзіва што, аднадумцы!

Ды наагул, хіба ж можна чакаць ад чужынцаў спагады да нашага нацыянальнага адраджэньня?

Я хацеў бы параіць чытачам газэты знайсьці колькі хвілінаў часу ды паслухаць згаданую перадачу — гэта музэй сапраўднага прапагандысцкага абсюрду.

**І.МАЛЫШКА**
**г.Слуцак**

# Казлоўскі абяцае: „загавору ня будзе, але генэралы маўчаць не зьбіраюцца“

**Учора, 28 лістапада, былы міністар абароны Павел Казлоўскі на сваёй кватэры правёў прэс-канфэрэнцыю.**

Пры філіжанцы кавы Павел Паўлавіч — у вайсковай форме і пры пагонах генэрал-палкоўніка — вырашыў «пагаварыць з прэсай аб дзеяньнях цяперашніх уладаў», якія, на ягоную думку, займаюцца «хлусьнёй, паклёпамі і беззаконьнем».



Павел Казлоўскі праводзіць прэс-канфэрэнцыю ў сваёй кватэры

П.Казлоўскі лічыць, што ў выніку такой палітыкі Беларусь можа ператварыцца ў паліцэйскую дзяржаву. «На першым мейсцы ў цяперашніх высокіх чыноўнікаў прэзыдэнцкай каманды стаяць не інтарэсы грамадзтва і чалавека, ня іхныя правы і законнасьць, а вар'яцкае імкненьне як мага вышэй узьнесьці «усенародна» абранага чалавека. Менавіта гэтым займаюцца «былыя прапаршчыкі, зампаліт батальёну» з атачэньня Лукашэнкі, — сказаў П.Казлоўскі.

Самога Лукашэнку генэрал ахарактарызаваў як чалавека, «які ня мае жыцьцёвага вопыту, пэўнай адукацыі і ўнутраных маральных тармазоў...» Казлоўскі па-армейску прама паставіў пытаньне: «Ці можа быць лідарам нацыі чалавек, які ашукваў і ашуквае яе?» І сам адказаў, што «такі чалавек лідарам нацыі быць ня можа і не павінен быць».

Блізкіх паплечнікаў Лукашэнкі генэрал назваў «дробнымі злодзеямі», а цяперашні міністар абароны Кастэнка, на думку Казлоўскага, зьяўляецца ўсяго толькі «марыянэткаю ў руках прэзыдэнцкай каманды».

Былы міністар абароны вельмі абураўся, што па-ранейшаму ў Савецкім судзе Менску адкладваецца разгляд ягонае позвы ў дачыненьні да грамадзяніна Лукашэнкі. Ён паведаміў, што зьбірецца таксама зьвярнуцца да Генэральнага пракурора з заявай, каб той распачаў крымінальную справу супраць дзяржсакратара В.Шэймана і галоўнага прэзыдэнцкага кантралёра В.Далгалёва за паклёп. Акрамя таго, адстаўны генэрал разам са сваімі былымі намесьнікамі будзе прасіць Вярхоўны Савет правесьці «парляманцкія слуханьні аб стане справаў у цяперашняй арміі». На ягоную думку, калі не спыніць «разбуральную дзейнасьць» сёньняшніх уладаў, «то праз паўгода беларускага войска ня будзе».

Генэрал таксама паказаў рапарт свайго сына лейтэнанта Андрэя Казлоўскага, які зьбіраецца звольніцца з войска. У рапарце Казлоўскі-малодшы напісаў: «Не хачу служыць у войску, дзе пануе беззаконьне, хлусьня і дзе спрабуюць зганьбаваць майго бацьку».

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# У Менску — новы лідар Грамады

**У мінулую суботу адбылася справаздачна-выбарчая канфэрэнцыя Менскай гарадзкой арганізацыі БСДГ.**

Яна цяпер налічвае 9 раённых філіяў у сталіцы, якія аб'ядноўваюць 200 сяброў партыі, а таксама больш за 500 актыўных прыхільнікаў Грамады. Старшынём менскай арганізацыі БСДГ абраны Міхась Чарняўскі — загадчык аддзелу археалёгіі Інстытуту гісторыі АН Беларусі. Сп.Чарняўскі стаяў каля вытокаў Народнага Фронту, уваходзіў у склад аргкамітэту БНФ.

**І.С.**

# У селяніна забіраюць вілы з рук

**Беспрацоўе патроху пачынае адчувацца і на вёсцы.**

Да прыкладу, на ўліку Слонімскай біржы працы цяпер 66 жыхароў раёну, зь іх 17 чалавек атрымліваюць дапамогу па беспрацоўі. Па прагнозах спэцыялістаў цэнтру занятасьці, у наступным годзе колькасьць сялянаў, якім спатрэбіцца такая дапамога, узрасьце ў 5—6 разоў.

**Яўген АЛАДКА**

# «Ачышчэнцы» выходзяць на сьцяжыну вайны

## Барыхінцы ў тэлевізары

Нядаўна ў Горадні пабываў дарадца прэзыдэнта палкоўнік Посахаў, які загадаў прапагандаваць у сродках масавай інфармацыі мясцовы аддзел саюзу «Очищение», ім жа, Посахавым, запачаткаваны. Неўзабаве ў абласной газэце быў надрукаваны «ачышчэнскі» зварот, які распачынаецца словамі: «Дорогие товарищи-единомышленники». У звароце гучыць заклік адрадзіць паўсюль былыя ініцыятыўныя групы падтрымкі Лукашэнкі дзеля таго, каб «вновь сплотить свои ряды и помочь представителям новой структуры власти сломить саботаж чиновников и торгашей».

У той жа самы дзень у абласной студыі тэлебачаньня выступілі прадстаўнікі «Очищения». Іхны кіраўнік Барыхін сказаў, што мэта «Очищения» — прыйсьці да ўлады(!), каб зрабіць дзяржаўнай расейскую мову, увесьці падвойнае грамадзянства ды забараніць бел-чырвона-белы дзяржаўны сьцяг і герб Пагоня. Барыхін настолькі ненавідзіць усё беларускае, што згодны хоць на які іншы сымболь — абы толькі скасаваць Пагоню. У гэтым ён прызнаецца ў інтэрвію ўсё той жа абласной газэце, надрукаваным 22 лістапада. Дарэчы, усе шасьцёра «ачышчэнцаў» гаварылі ў тэлестудыі па-расейску, не зважаючы на беларускамоўнага вядучага. Так што гледачы засталіся ў непаразуменьні: чым жа «ачышчэнцам» перашкаджае дзяржаўнасьць беларускай мовы.

Сёньня ў «Очищении» 552 члены, — менш чым было ў часе прэзыдэнцкай кампаніі. Ягоная гучная назва «народный союз» вельмі ж нагадвае «Союз меча и орла» зь вядомага рамана пра Астапа Бэндэра. Ня дзіва, што ім пакуль не ўдаецца стварыць нават абласную арганізацыю. Як паскардзіўся сам Барыхін — не знаходзіцца спонсараў.

## Чатыры кіляграмы пячонкі

У антыкарупцыйным імпэце ажно 40 «ачышчэнцаў» уступілі ў Таварыства спажыўцоў, каб атрымаць «корачкі», зь якімі можна правяраць крамы. Уся іхная мышыная валтузьня якраз і абмяжоўваецца спрэчкамі з прадаўцамі. Бо, напрыклад, надзея на выкрыцьцё гаспадроў прыгарадных катэджаў выявілася марнай. Адказны за «праверку» катэджаў «ачышчэнец» двойчы зьедліва назваў гэтыя дамы «3-этажными изваяниями», але прызнаў, што гаспадары маюць адпаведныя паперы на будаўнічыя матар'ялы. Ён сказаў таксама тэлегледачам, што «промедление с президентской вертикалью, как говорил великий Ленин, может нас погубить». Галоўная ж прычына марнасьці ачышчэнскай дзейнасьці ў тым, што яны ня маюць ніякіх кантактаў з праваахоўнымі органамі, дзе насьцярожана ставяцца да іхнай самазванчай місіі. Дзейнасьць «народнага саюзу» я б назваў «шмат шуму зь нічога» (няхай мне даруе Шэкспір гэтае запазычаньне). Бо пакуль што «Очищение» можа пахваліцца толькі адным канкрэтным вынікам — выкрыты выпадак крадзяжу 4-х кіляграмаў пячонкі ў адной школьнай сталоўцы... І над усім гэтым лунае гучны лёзунг «барацьба з карупцыяй». Але гэта толькі эфэктная шыльда для наіўных і дурняў. Барыхін жа ясна сказаў: ягоная галоўная мэта — улада.

## Беларусь — не для беларусаў?

Таварыш прафэсар Барыхін пасьпявае сёньня яшчэ і апантана змагацца супраць беларусізацыі навучаньня ў Гарадзенскім унівэрсытэце. Ну, Юлі Цэзар дый годзе! На ўсё ў яго хапае часу. Ён дамогся, у прыватнасьці, што ўнівэрсытэцкіх «нацыяналістаў» спрабуе «вывесьці на чыстую ваду» сталічная камісія. Барыхін дагаварыўся нават да таго, што стварэньне нацыянальнага ўнівэрсытэту ў Горадні — гэта антызаконная акцыя. Ён толькі не ўдакладніў, што гэта антызаконна было б у колішнім СССР або ў Расеі, адкуль да нас прыехаў зацяты змагар зь беларушчынай. Бо стварэньне беларускага па зьместу ўнівэрсытэту ў тых умовах было б аніяк не магчымае. Настроенаму па-антыбеларуску прафэсару варта было б усьвядоміць, што галоўнай падставаю для стварэньня на Беларусі беларускага ўнівэрсытэту ёсьць сувэрэннасьць нашай дзяржавы, таму — хай хоць локці грызе...

Нічога, зрэшты, дзіўнага. Ва ўнівэрсытэце ведаюць, што ён раней супрацоўнічаў з адыёзнай расейскай арганізацыяй «Память»... Дазволю сабе тут працытаваць расейскага нацыста Якушава ("Свастика на мундире военного прокурора" — «Известия», 19.11.94): «Стою на позициях православного фашизма. Член «Памяти». Да слова, адзін з «ачышчэнцаў» унівэрсытэцкі выкладчык Б. неаднойчы казаў сваім калегам, што ён — «русский фашист».

## Балбатун і шпіён

Ці памятаеце савецкую прымаўку: «болтун — находка для шпиона»? Трапіўся мне нядаўна такі, прычым і тое, і другое ў адной асобе. Зазначу, што быў ён абсалютна цьвярозы. Ён паведаміў, што мясцовыя Славянскі сабор і ЛДПР «замыкаюцца» на барыхінскім «Очищении» — у гарадзенскім палацы культуры тэкстыльшчыкаў. Сказаў, што ад Баркашова ім перадалі чорнасоценны сьцяг, але яны пакуль што асьцерагаюцца выходзіць зь ім на вуліцы. З задавальненьнем распавёў, што калі БНФаўцы сьвяткавалі бітву пад Воршай, дык яны адзначылі ўгодкі разгрому Суворавым корпуса генэрала Гранатоўскага з арміі Т.Касьцюшкі: «Все как полагается — водочкой и коньячком».

Славянасаборавец таксама расказаў, што ягоныя менскія паплечнікі езьдзілі на зьезд «да Баркашова і Стэрлігава», а цяпер зьбіраюць баявікоў і «одевают их в камуфляж». А самае цікавае, што я даведаўся, — словы Барыхіна пра старшыню Гарадзенскага аблвыканкаму С.Домаша: «Весной его уже не будет». Пры ўладзе, трэба разумець. Паплечнікі Барыхіна лічаць, што прафэсар ня супраць сам заняць пасаду кіраўніка вобласьці. Во апэтыт!

**М.ПАЎЛАЎ**

# Калі табе беспрацоўны імя...

**Колькасьць беспрацоўных у Берасьцейскай вобласьці ў параўнаньні зь мінулым годам узрасла ў 1,8 раза.**

На сёньняшні дзень агульная колькасьць беспрацоўных, афіцыйна зарэгістраваных у службах занятасьці, складае каля 17 тысячаў чалавек. Але рэальная колькасьць значна большая: ужо сёлета засталіся бяз працы каля 65 тыс. рабочых і служачых, па тых ці іншых прычынах звольненых зь дзяржаўных прадпрыемстваў, зь іх больш за дзевяць тысяч — па скарачэньні штатаў. Разам з тым на прадпрыемствах і ў арганізацыях адчуваецца патрэба у кадрах — застаюцца вакантнымі больш за тысячу працоўных мейсцаў. Што ж, людзі аддаюць перавагу іншаму спосабу зарабляць грошы — камэрцыйныя ваяжы ў блізкае і далёкае замежжа...

**Валяньціна КАЗЛОВІЧ,**
**БелаПАН**

# Генэралы сьцьвярджаюць, што іх „рэпрэсавалі па палітычных матывах"

**Група генэралаў на чале з былым міністрам абароны П.Казлоўскім перадала ў прэсу адкрыты ліст да прэзыдэнта Лукашэнкі. У ім, у прыватнасьці, гаворыцца:**

«Воляю лёсу і цяперашняга закону мы былі заангажаваныя ў палітычную кампанію па выбарах першага прэзыдэнта. Мы дзейнічалі сумленна і адкрыта, у адпаведнасьці зь існым заканадаўствам. Было б дзіўна, калі б войска, як дзяржаўная структура, праяўляла ў гэты пэрыяд неляяльнасьць да свайго ўраду і ягонага старшыні. Вы перамаглі. Гэта нармальна, і мы вас віталі. Выступаючы на інаўгурацыі і затым прадстаўляючы новага міністра абароны, Вы заяўлялі: усё тое, што было ў запале перадвыбарчай палітычнай барацьбы да 10 ліпеня, застаецца ў мінулым, а галоўным крытэрыем будзе асабістая прафэсійная дзейнасьць кожнага на сваім мейсцы.

Аднак у жыцьці ўсё зусім інакш.

З самых першых дзён вашага праўленьня кіраўніцтва Ўзброеных Сілаў падвяргалася абсалютна беспадстаўным абвінавачваньням і перасьледаваньням. Ад пасадаў вызваленыя і працягваюць вызваляцца вопытныя кіраўнікі, часта грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія аддалі ёй свае веды, вопыт і здароўе.

У войсках склалася абстаноўка трывогі і нестабільнасьці, неабароненасьці законам, што разам з эканамічнымі цяжкасьцямі выклікала цэлую плынь тых, хто хоча пакінуць службу. Пад пагрозаю знаходзіцца боегатоўнасьць Узброеных Сілаў і бясьпека маладой беларускай дзяржавы.

У гэтых умовах асабліва нецярпіма, што ў вашае атачэньне пранікли людзі малакампэтэнтныя і амаральныя, якія імкнуцца рэалізаваць свае асабістыя амбіцыі праз адраджэньне «апрычніны»...

У якасьці аднаго з галоўных вынікаў вашага 100-дзённага праўленьня падносіцца разгром «карумпаванага» армейскага генэралітэту.

Але, спадар прэзыдэнт, будзьце сумленным, нягледзячы на шэпты набліжаных чыноўнікаў. Бо абвінаваціць у злачынстве любога грамадзяніна можа толькі суд, ён адзін мае права выносіць прыгавор, а не малаадукаваны, няспраўджаны «военачальнік» з вашай каманды.

Мы патрабуем судовага разгляду ўсіх высунутых супраць нас абвінавачваньняў, калі яны існуюць, у адпаведнасьці з законам...»

*Ліст падпісалі:* **генэрал-палкоўнік** (так у тэксце. — *Рэд.*) **П.Казлоўскі, генэрал-лейтэнанты Чуркін, Дзямідзік, Сікора, Зуеў, генэрал-маёр Вакар, палкоўнікі Карлін, Блажко, а таксама былы намесьнік міністра абароны Тушынскі.**

Сёньня

Сяргей ДУБАВЕЦ

# Прэстыж прэзыдэнта

Беларусь у апошнія гады, як правіла, не паўтарае расейскія ўнутрыпалітычныя сцэнары, але відавочна, што пасьля выбраньня новага Вярхоўнага Савету процістаяньне парляманту і прэзыдэнта нам гарантаванае таксама. Які б ні быў парлямант. Бо мы ведаем — які прэзыдэнт.

А.Лукашэнка пачаў сваё папулісцкае шоў з пагрозаў карупцыянэрам і з газэтнага шуму пра ўласную абарону. Яшчэ тады падумалася, што лепшы спосаб абароны — гэта напад, прычым напад зусім не інтэлектуальны. Шуміха ў прэсе вакол такога «пратакольнага» пытаньня, як асабістая ахова палітыка, паказвала, якой стылістыцы палітычнай барацьбы аддае перавагу новы прэзыдэнт. Пра тое ж сьведчыў напад каля Лёзна, публічныя абяцаньні «пасадзіць» і г.д. Лукашэнка — гэта чалавек сродкаў, а ня мэтаў. Нездарма ён так і не адказаў Кебічу, якім чынам зьбіраецца «запусьціць заводы». Лукашэнка — чалавек рэакцыі, а не ініцыятывы. Нездарма ён толькі рэагуе на ініцыятывы іншых, напрыклад, мінулага і свайго кабінэтаў міністраў. Адзіная магчымая ініцыятыва прэзыдэнта — гэта і ёсьць рэакцыя на нешта.

Сёньня нам ужо вядомыя і чалавечыя характарыстыкі новага кіраўніка дзяржавы: ён непрадказальны, неінтэлігентны, псыхічна закамплексаваны на сваіх хваробах, інфармацыю пра якія ўтойвае ад дэпутатаў ВС.

Вясною новы Вярхоўны Савет ужо ня будзе гэткі аморфны і падатлівы ў дачыненьні да кіраўніка краіны. Бо нішто не абяцае паляпшэньня ў жыцьці людзей, якраз наадварот. І новы ВС запатрабуе ад А.Лукашэнкі як мінімум дыялёгу. Прычым адфутболіць дэпутатаў, як можна было адфутбольваць Францавіча і журналістаў на перадвыбарчых дэбатах, Лукашэнка ня зможа. На гэты раз гутарка пойдзе вельмі паважна. Але Лукашэнка — ня Ельцын з кагортай інтэлектуалаў за плячыма, з падтрымкай сусьветнай грамадзкасьці і ўласнага народу. Таму абстраляць парлямант з танкаў Лукашэнку ня ўдасца. Нават калі зь ім будзе Кастэнка (міністар абароны?). Нічога пазытыўнага ў палітыцы ён ня зробіць, бо ня робіць гэтага сёньня, у пару найбольшага даверу людзей. Гэта тупік.

І вось тут маленькаму чалавеку, які паводле памылкі лёсу сядзіць у вялізным начальніцкім кабінэце, пакінуты ўсімі, хто здольны параіць хоць што-небудзь канструктыўнае, не застанецца нічога, апроч ягонага характару і адзінай здольнасьці — рэагаваць. Рэагаваць так, як дыктуюць табе твае ўяўленьні пра палітыку (пагрозы, тэракты і да т.п.).

Магчыма, нешта падобнае пачнецца задоўга да вясны, ужо заўтра. Ва ўмовах, калі незадаволеная ўся прэса — і левая, і правая, і жоўтая, калі крэдыт народнага даверу тане на вачах, калі дэмаралізацыя грамадзтва і злачыннасьць расьце, а міліцыя арыентаваная на ўсёдазволенасьць і паводзіць сябе як ніколі разьвязна, — у такіх умовах мы ўжо заўтра можам пачуць пра рэальны абстрэл пад Лёзнам, пра выбух у машыне якога-небудзь дэпутата, пра зьнікненьне бязь сьледу якога-небудзь журналіста ці лідара партыі. Гэта будуць чыста крымінальныя акты, бо папулізм — не аргумант у судзе. Магчыма, прэзыдэнт пачне змагацца з асобнымі дэпутатамі ўжо гэтага парлямэнту.

Ёсьць і яшчэ адзін варыянт разьвіцьця падзей: кіраўнік дзяржавы дасьць сабе рады сам — як-небудзь сыдзе, зьнікне, прападзе. Гэта, зразумела, найлепшае выйсьце. Праўда, выйсьце толькі для Лукашэнкі. Бо ўжо сёньня самому паняцьцю «прэзыдэнт Беларусі» нанесеныя адчувальныя страты. І новаму прэзыдэнту здабыць сабе прэстыж будзе ў шмат разоў цяжэй, чым Лукашэнку ў першыя дні прэзыдэнцтва.

## Нямецкія могілкі — нямецкі парадак

**Апошнія ацалелыя могілкі нямецкіх жаўнераў, якія загінулі пад вёскай Паляцічы Кобрыньскага раёну ў 1915 г., маюць надзіва прыстойны выгляд.**

Праўда, рупнасьць мясцовых уладаў тут амаль ні пры чым. Парадак на могілках навялі сябры адной нямецкай маладзёжнай арганізацыі.

**Лявон МУХАВЕЦКІ**

## Пра Касьцюшку ўспомнілі ў Лунінцы

**Адна з новых вуліц гэтага палескага райцэнтру будзе насіць імя Тадэвуша Касьцюшкі — ураджэнца Берасьцейшчыны, кіраўніка вызвольнага паўстаньня.**

Гэта другі пасьля Косава горад на Берасьцейшчыне, дзе імем Касьцюшкі названая вуліца.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

## У Беластоку кіруюць мэдыкі

**У мінулую пятніцу Горадню наведаў прэзыдэнт горада Беластока Анджэй Люса.**

Ён прызначаны на пасаду нядаўна і прыехаў пазнаёміцца ды навязаць кантакты з гарадзенскімі ўладамі. Сп.Люса перад гэтым працаваў дацэнтам Беластоцкай мэдычнай акадэміі, належыць да правых сілаў.

Беластоцкім ваяводам, дарэчы, таксама прызначаны ягоны калега па акадэміі, які, аднак, прытрымліваецца левых поглядаў.

**С.А.**

## Межы паломнікам не перашкода

**Група менскіх каталікоў наладзіла пілігрымку да абраза Маці Божай Вострабрамскай у Вільні.**

У каплічцы, дзе знаходзіцца сьвятыня, адслужылі сьвятую імшу на беларускай мове. У Вільні каталікі-беларусы сустрэліся з адзінаверцамі і прадстаўнікамі тамтэйшага беларускага грамадзтва. Паломніцтва ладзілі Беларуская каталіцкая грамада і вернікі менскай парафіі Сьвятой Тройцы.

**Марат УРУБЛЕЎСКІ**
**БелаПАН**

## БДУ асвойвае ўкраінскую мову

**Хутка на філялягічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэта адчыніцца ўкраінскае аддзяленьне.**

Адпаведная дамоўленасьць дасягнутая паміж рэктарам БДУ Фёдарам Капуцкім і Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Валадымірам Жэлібам. Плянуецца, што першыя 10—15 студэнтаў на спэцыяльнасьць «украінская мова і літаратура» будуць набраныя ўжо ў наступным навучальным годзе.

**Ірына САЗАНОВІЧ,**
**БелаПАН**

# Беларусь і Польшча пасярод Эўропы

**Мокры восеньскі парк з вакна старасьвецкага палацу, альтанка ў кітайскім стылі, артысты ў магнацкіх строях (здымаецца нейкі фільм) — усё вакол змушае да настальгіі па мінуўшчыне. І хоць нашая канфэрэнцыя «Беларусь і Польшча ў Эўропе» цалкам сучасная, але гістарычны кантэкст праглядае ў кожным выказаным тут слове.**

Гісторыя нічому ня вучыць, але задае пэўную лёгіку і алягізмы разьвіцьця. У гэтым сэнсе Польшча нясе ўсю паўнату адказнасьці за паланізацыю беларуска-літоўскай эліты ў 17-м стагодзьдзі і наступны развал Вялікага Княства Літоўскага і ўсёй Рэчы Паспалітай, вынікам чаго і стаў сучасны геапалітычны люфт у рэгіёне.

На канфэрэнцыі **«Беларусь і Польшча ў Эўропе»**, якая праходзіла **18—19 лістапада ў Яблоннай каля Варшавы**, пра гістарычную адказнасьць, бадай, не казалі нічога. Гаварылі пра люфт, на мейсцы якога сёньня «быццам бы» ёсьць новая «быццам бы» дзяржава Беларусь. Падсумаваў вынікі канфэрэнцыі **Войцех Заянчкоўскі** з Фонду імя Сьцяпана Батуры: цяпер мы ведаем, што мы адзін пра аднога — нічога ня ведаем.

Інфармацыйны вакуум паміж Беларусяй і Польшчай стаў на канфэрэнцыі галоўным прадметам вывучэньня. У Польшчы пра Беларусь ня пішуць, бо не цікавяцца. Новая «паўкраіна» — шэрая кабылка — можа быць цікавая толькі на ўзроўні першай думкі пра першага стрэчнага ў цёмным завулку: ці не задумаў чаго нядобрага, ці не агрэсыўны, чаго найгоршага **можна чакаць**? У Беларусі пра Польшчу пішуць толькі паводле інфармацыяў маскоўскіх агенцтваў, а гэта значыць, што таксама ня пішуць, таксама не цікавяцца. Але, у адрозьненьне ад польскіх журналістаў, беларускія, здаецца, такую ж нецікаўнасьць выяўляюць і да краіны ўласнай. Як гэта ні абсурдна, а нельга сказаць, што беларуская журналістыка адчувае сапраўдную цікавасьць да Беларусі.

Увогуле беларуская дэлегацыя выглядала дастаткова кампэтэнтна і дарэчна. За выключэньнем хіба што **Леаніда Зайкі** з Цэнтру Стратэгічных Ініцыятываў Усход—Захад, які завяршыў свой даклад высновай: у Беларусі ёсьць тры прыклады разьвіцьця — Японія, Кітай і Ганконг... Як бы гутарка вялася пра нейкую стэрыльную тэрыторыю.

А што яшчэ казалі пра Беларусь?

**Юры Дракахруст** гаварыў у кулюары пра тры дзіўныя падзеі апошніх гадоў — тры прарывы народнай душы, якім цяжка даць вытлумачэньне: Курапаты, страйкі і выбары прэзыдэнта. Дакладны ў сваіх артыкулах, журналіст зайшоў у тупік, але згадаў, што гэты тупік — паводле расейскай аналітычнай школы — якраз і ёсьць выйсьце: «умом Россию не понять», «загадочная славянская душа» і г.д. Словам, замест рэалістычнай высновы даецца мэтафара. Хоць з пункту гледжаньня іншых школаў (тая ж Польшча, Чэхія, ГДР, краіны Балтыі) усё лягічна — тры акцыі народнага пратэсту, кожны зь якіх вянчаўся стварэньнем першых, яшчэ «нефармальных» структураў незалежнае Беларусі. Зьявіліся БНФ, рабочы рух, партыі. Што будзе пасьля пратэсту супраць Кебіча на мінулых выбарах прэзыдэнта? Трэба думаць — новы парлямант, ужо «фармальная» структура. І галасуючы за гэты парлямант, людзі будуць больш думаць пра тое, каго выбіраць, а не пра тое, каго валіць.

**Сямён Букчын** дамаляваў да партрэту Беларусі свае мэтафары: дзяржава-прывід, грамадзтва бяз мэты, Беларусь — унікальная тэрыторыя, народ яе — беларуска-руска-савецкі... На гэтым, бадай, удзел прадстаўнікоў расейскай мэтафарычнай школы быў вычарпаны. Польскія таварышы, выхаваныя на іншых традыцыях, дапамагалі сваім беларускім калегам разабрацца, хто ж яны такія і што ў іх за дзяржава і народ.

Журналіст N. задаў рытарычнае пытаньне: ці можна гаварыць пра краіну, калі няма мовы? Праф. **Пётар Эбэргард** з Польскай Акадэміі Навук напісаў цэлую кніжку пра нацыянальныя працэсы ў Беларусі і доўга распавядаў пра навуковае вывучэньне статыстычных дадзеных за апошнія два стагодзьдзі, але скончыў сваю прамову ўласным бытавым назіраньнем: калі ён быў у Менску, то ані разу ня чуў беларускае мовы.

Праўда, гэта было некалькі гадоў назад і толькі ў Менску. За два стагодзьдзі русыфікацыі расейская мова ў Беларусі ня толькі не дала ніводнае выбітнае зьявы расейскай культуры, але й ня стала падставай нацыянальнае самаідэнтыфікацыі беларусаў. Гавораць нібыта па-расейску, але расейцамі ад гэтага ня робяцца. Гэта значыць, што ператвораная ў правінцыю імпэрыі краіна магла б гаварыць і па-француску і па-кітайску, — нішто ад гэтага не адымаецца і не дадаецца. Беларуска-расейская трасянка выконвае чыста «тэхнічныя» камунікатыўныя функцыі, а мовай культуры ў Беларусі як была, так і застаецца мова беларуская.

Ціхі разгром расейскай мэтафарычнай школы давершыў **Юры Хадыка** з БНФ: усе міты пра беларускі народ — гэта праблема занядбанай беларускай інтэлігенцыі, а не народу. У Беларусі няма дэмакратыі, а адсюль — усе цяжкасьці.

Ю.Хадыку запярэчыў **Станіслаў Шушкевіч:** не, мы — ахвяры якраз дэмакратыі, бо выбары прэзыдэнта былі законныя. Прыніжаны народ выбірае прыніжанага прэзыдэнта.

Гісторыя не адпускае спрэчнікаў ні на крок. Яе кантэксты магнэтызуюць гаворку. Ю.Хадыка даў А.Лукашэнку выразнае вызначэньне — ён аўтанаміст! Як і Кебіч. І сапраўды, першаму беларускаму прэзыдэнту самае мейсца на Першым Усебеларускім Кангрэсе 1917 г. — кангрэсе трыумфу і краху аўтанамістаў, дзе які-небудзь Вазіла да страты прытомнасьці крычаў: «Да как же без России?! Да без России ведь никак!»

Тое, што пачалося далей, нагадвала асьцярожную падрыхтоўку да гутаркі пра адраджэньне Рэчы Паспалітай. Аб'ектыўны стан рэчаў у геапалітыцы настойліва штурхаў размоўцаў у старое, традыцыйнае рэчышча. Пасьля падзелаў ВКЛ і РП у XVIII ст. гутарка пра іх аднаўленьне вядзецца ўвесь час — калі паўстанцкімі штуцарамі й косамі, калі моваю дыпляматыі, калі мастацкім словам, — яна доўжыцца ўжо два стагодзьдзі. І цяпер таксама непазьбежна з размовы пра люфт перайшлі да таго, чым гэты люфт можна запоўніць. Адно заўважу, што адкрыта пра аднаўленьне ВКЛ і РП ніхто не казаў. Называлі іншыя абрэвіятуры, напрыклад, БЧС, згадвалі Вышаградзкую групу, але сэнсу гаворкі гэта не мяняла.

**Ежы Марэк Навакоўскі** з Польскага радыё заявіў, што інтарэс Польшчы — мець на ўсходзе суседа падобных памераў, а не вялізную імпэрыю. Маўляў, для Мэксыкі лепш было б навязваць адносіны з Тэхасам, а не з... Польшча ня хоча быць полем бою паміж Усходам і Захадам.

Добрыя намеры. Але з кім тады будзе навязваць адносіны Беларусь? З Смаленскай губэрняй? Ці з Маскоўскім княствам сьціплых памераў?.. Урэшце, сёньня нам яшчэ можна казаць такое, пакуль мы самі ня ведаем, чым хоча быць Беларусь.

Сэнс рэчы ў тым, што паміж двума кантраснымі (паводле І.Абдзіраловіча) тыпамі цывілізацыі — заходнеэўрапейскай і маскоўскай — не павінна быць непасрэднае мяжы. Тут мусіць быць нейкае адаптацыйнае поле, шлюз (паводле Ю.Хадыкі), а на маю думку, трэцяе роўнавялікае цела. Інакш вайна — хоць сабе халодная, хоць гарачая. Але Беларусь — занадта малое і пакуль слабое цела. Не дацягвае да такой ролі і адна Польшча. Гутарка мусіць ісьці пра групу дзяржаваў, здольную стаць трэцяй геапалітычнай рэальнасьцю ў Эўропе. Я думаю, што ня проста так заходнія палітыкі не прынялі адразу Польшчу ў NATO, а прапанавалі трэці варыянт — партнэрства дзеля міру. Яны цягнуць час, пазьбягаючы новай выразнай мяжы Ўсходу і Захаду.

Акурат пра гэта было пытаньне **Тадэвуша Клапатоўскага:** як у Беларусі будуць глядзець на ўступ Польшчы ў NATO?

А чаму б Польшчы не паверыць у будучыню сярэднеэўрапейскага альянсу замест таго, каб ісьці на паклоны ці то да дзядзькі Сэма, ці то да бацькі цара? Урэшце, сярэднеэўрапейскі тып цывілізацыі фармуецца ў праціўленьні як амэрыканскім, так і маскоўскім стандартам, якія ўсім нам — не свае. Зноў кантэкстам праходзіць ідэя Рэчы Паспалітай многіх народаў. І тут ужо зусім блізка гучаць словы Е.М.Навакоўскага: голас Польшчы лепш чуваць у сьвеце, таму Польшча павінна быць адвакатам беларускай сувэрэннасьці на міжнароднай арэне. Магчыма, гэта голас гістарычнай адказнасьці прамаўляе з крыві...

А яшчэ прыклад Югаславіі паказвае, што, бачачы толькі вялікіх гаспадароў сьвету, сярэднеэўрапейскія народы схільныя скінуць зь сябе ўсю адказнасьць, дэлегуючы яе ААН, NATO, Маскве... Які з гэтага толк — усе ведаюць.

Закончылася канфэрэнцыя вяртаньнем да тэмы адчуджанасьці. Публіцыст **Багдан Скарадзінскі:** 4,5 млн. беларусаў пабывалі за тры кварталы гэтага году ў Польшчы, але палякі глядзяць на іх як на расейцаў, і чаканага кантакту не ўзьнікае. Галоўная прычына — расейская мова. Праўда, у адным з Б.Скарадзінскім пагадзіцца нельга — у тым, што мы перажываем у нашых адносінах зусім новы пэрыяд, якога не было ў гісторыі. Мне думаецца, што гэтаму пэрыяду сотні гадоў. Мы, Сярэдняя Эўропа, працягваем шукаць сваё мейсца паміж Усходам і Захадам.

Статуэтка з трох німфаў, што ўзвышалася на старасьвецкім камінку ў канфэрэнцзалі, прасілася быць сымболем гэтай імпрэзы. Але якім? Эўропа Заходняя — Сярэдняя — Усходняя? Польшча — Беларусь — Расея? Польша + Беларусь + Літва?..

**Сяргей ДУБАВЕЦ**

## Палякі слухалі Шушкевіча без перакладчыка

**У варшаўскай тэлестудыі ў праграме, прысьвечанай Беларусі і польска-беларускім дачыненьням, узяў удзел Станіслаў Шушкевіч.**

Гледачы ўбачылі сьціслы рэпартаж аб палітычным разьвіцьці нашай краіны, пачынаючы ад Белавежскага пагадненьня. Вядучы зьвяртаўся да Шушкевіча словамі «пан прэзыдэнт», патлумачыўшы, што Шушкевіча ўсе так называлі, калі той узначальваў беларускі парлямант. Высьветлілася, што калі Лех Валэнса прыяжджаў да нас, дык яны з Шушкевічам размаўлялі па-сяброўску на «ты», а польскі прэзыдэнт гэтак робіць ня часта.

Станіслаў Шушкевіч пракамэнтаваў сёньняшні стан беларускай эканомікі і вонкавай палітыкі. Ён, у прыватнасьці, сказаў, што Лукашэнка спрабуе рэфармаваць гаспадарку адміністрацыйнымі мэтадамі. Гэта тым больш ня мае пэрспэктываў, бо, паводле словаў Шушкевіча, ва ўрадзе няма людзей, якія здолелі б праводзіць рынкавыя зьмены. Дарэчы, Станіслаў Шушкевіч, хоць і не бездакорна, але гаварыў па-польску.

**Адам ЗАНЕЎСКІ**

## Крывавыя сьляды НКВД у Бухавічах

**Польская тэлевізія паказала сюжэт зь вёскі Бухавічы, што непадалёк Кобрыні.**

У інтэрвію тележурналістам адзін з жыхароў гэтай вёскі паведаміў, што ён быў сьведкам, як НКВД расстрэльвала тут польскіх афіцэраў. Ён паказаў і мейсца іхнага пахаваньня.

**І.Б.**

